

# ВЫБАР

ГАЗЕТА ДЭМАКРАТЫЧНЫХ ПЛЫНЯЎ ПРЫДЗВІНСКА- ПРЫДНЯПРОЎСКАГА КРАЮ

№ 39 (67) 15—21 снежня 1993 г. Кошт 15 руб.


## У ВЫПУСКУ:

- Крыху пра беларускую геапалітыку
- Законы перадвыбарнай барацьбы
- Бясплатныя аб'явы

*Тэатральнае жыццё*

## У коласаўцаў прэм'ера





Фота А. ЛАКОТКІ.

«Здурнелы Журдэн» Міхаіла Булгакава. Мальерыяна ў дзвюх дзеях. Мы ўжо прызвычаіліся да таго, што гэтая п'еса трактуецца на сцэне як камедыя палажэнняў. Звычайна гэта яскравы тэатральны спектакль у стылістыцы мальераўскіх камедый з сацыяльным сэнсам. А вось стваральнікі спектакля на віцебскай сцэне звяртаюць асаблівую ўвагу на тое, што аўтар п'есы—Булгакаў.

Пастаноўшчыкі вырашылі паразмаўляць з гледачом без хітрыкаў: жорстка ды востра. Вот так і нарадзіўся ў коласаўскім тэатры свой падыход да вядомай п'есы. Вось адкуль больш адкрыты, больш шчыры ход у распрацоўцы сцэнаў.

Гэта палітычны памфлет, але без павучанняў і натацый. Рэжысёр Юры Лізэнгевіч прапануе форму палітычнай пародыі. Гэтую задуму ўдала ажыццяўляе кампазітар Уладзімір Кандрусевіч. Смех да слёз і смех праз слёзы—непадзельныя тут. Пастаноўшчыкі спадзяюцца, што высмеяўшы, прасцей развітацца са сваім страхам, выхаваным дзесяцігоддзямі ў свядомасці чалавека. У гэтым стваральнікам дапамагаюць талент ды прадбачлівасць Мальера і Булгакава.

Ролю Журдэна іграе арт. Рыгор Шацько, а ягоную каханую жонку—нар. арт. Беларусі Георгій Дубаў. У новым спектаклі занятыя акцёры розных пакаленняў, усе яны ствараюць незабыўныя вобразы булгакаўска-мальераўскіх герояў. Касцюмы й сцэнаграфію прапанавалі Юры ды Святлана Макаранкі, балетмайстар Леанід Кляцко дапамог скласці пластычны малюнак «Здурнелага Журдэна».

У пятніцу, 17 снежня, першы паказ спектакля.

**С. ДАШКЕВІЧ.**

## Збіраюцца паціху

Клуб выбаршчыкаў «За дэмакратычныя выбары» працягвае збор ахвяраванняў на перарэгістрацыю. Сябрамі й прыхільнікамі гэтай грамадска-палітычнай арганізацыі сабрана звыш 54 тысяч «зайчыкаў».

**К. СТУСЬ.**

## Корпус добры, толькі...

10 снежня афіцыйна адкрыўся новы корпус абласной дзіцячай бальніцы. У ім хірургічнае, артапедатраўматалагічнае, алергалагічнае й інш. аддзяленні, якія агулам маюць 155 ложкаў.

«Некалькі тыдняў працы на новых плошчах паказалі,—сказаў нашаму карэспандэнту галоўны лекар бальніцы І. Какушкін,—што корпус добры. Аднак у ім не хапае абсталявання. Нам бы хацелася мець даволі якаснай сучаснай апаратуры».

На ўрачыстасці адкрыцця прысутнічалі кіраўніцтва аховы здароўя краіны, прадстаўнікі мясцовых уладаў, будаўнікі.

**Алесь НЯСМЕЛЫ.**

## Каб унікнуць катастрофы

**Удзельнікі гомельскай кансультатыўнай рады «Грамадзянскае дзеянне» прынялі сумесную заяву, у якой адзначаецца, что наша дзяржава апынулася на мяжы нацыянальнай катастрофы.**

Крах у эканоміцы не з'явіўся нечакана, а стаў заканамерным вынікам безадказнай палітыкі Вярхоўнага Савета і ўрада Беларусі. Ратыфікацыя дагавора з Расіяй аб эканамічным саюзе і аб'яднанні грашовых сістэм не палепшыць эканамічную сітуацыю ў краіне. Гомельскія дэмакраты справядліва адзначаюць, што Расія не будзе займацца філантропіяй на карысць Беларусі. За ўсё трэба будзе плаціць у цвёрдай валюце і суверэнітэтам. Гэта ўжо зразумелі кіраўнікі іншых краін СНД.

Аўтары заявы—прадстаўнікі АДПБ, БСП, БСДГ, Руху дэмрэформаў, Партыі народнай згоды, Сацыяльна-экалагічнага саюза, клуба выбаршчыкаў—заклікалі гамяльчан патрабаваць адстаўкі ўрада Кебіча і правядзення новых дэмакратычных выбараў ва ўсе органы ўлады.

## САМЫ ЗАЦІКАЎЛЕНЫ

**На мінулым тыдні ў Віцебскай вобласці пабывалі з інспекцыйнай паездкай міністр аховы здароўя Васіль Казак і ягоны першы намеснік Мікалай Сцепаненка. У суботу яны сустрэліся з мясцовымі журналістамі.**

Міністр намаляваў даволі сумную, але ўжо вядомую з нядаўняй прэс-канферэнцыі для цэнтральных газет, карціну. Эканамічны спад, экалагічныя праблемы, нявырашанасць многіх палітычных пытанняў непасрэдна адбіваюцца на стане здароўя беларусаў. За першыя дзесяць месяцаў года смяротнасць (12,3 чал. на 1000 жыхароў) перавысіла ўзровень нараджальнасці (11,3 на тысячу). Час ад часу масава ўспыхваюць інфекцыйныя захворванні. Людзі перажываюць нервова-псіхічную дэзадаптацыю, а грамадства ў цэлым—калектыўны стрэс.

Медыцына трапіла не ў лепшы для сябе перыяд. Доля сродкаў, выдзяляемых на ахову здароўя з нацыянальнага даходу, істотна скарацілася. Вечны для нашых хворых дэфіцыт лекаў стаў больш адчувальным: сваіх прэпаратаў вырабляем мізэр, а імпарт значна паменшыўся. Грошай на куплю лякарстваў за мяжой няма...

І ўсё ж Васіль Казак ацаніў сітуацыю так: аб'ём ды якасць меддапамогі не (!) пагоршыліся. А ахова здароўя нават стала лепей. Знізілася дзіцячая смяротнасць, палепшылася матэрыяльная база.

Спадар міністр бачыць выйсце са складанага становішча медыцыны ў новым гаспадарчым механізме, у сучасных тэхналогіях, развіцці нацыянальнай фермацэўтычнай навукі, стварэнні прамысловасці па вырабу лякарстваў, медабсталявання ды інструментаў.

На думку В. Казака, рублёвая зона здольна дапамагчы выратаваць беларускіх урачоў ад недахопу лекаў. «Я як ніхто зацікаўлены ў стварэнні эканамічнага саюза»,—заявіў міністр.

**Н. ПРЫСУТНЫ.**

## Толькі ўсё дарэмна

Агульнавядома, які цяперака крызіс у энергетычнай прамысловасці. Не хапае мазуту, недахоп электраэнергіі. Многія прадпрыемствы з-за гэтага не могуць, як належыць, працаваць, выпускаць прадукцыю, так неабходную для спажыўца.

Многія. Але не ўсе. Напрыклад, вытворчае аб'яднанне «Даламіт», якім кіруе былы першы абкама КПБ Уладзімір Грыгор'еў.

24 лістапада адзін з намеснікаў старшыні аблвыканкама Мікалай Пашэнька паслаў дырэктару Віцебскіх электрычных сетак тэлеграму: «У сувязі з неаплатай за электраэнергію, што спажываецца ВА «Даламіт», з 24.11.93 г. увесці абмежаванне магутнасці на 50%».

А што на самой справе? Аб'яднанне працягвае пускаць пыл на ўсю моц. Праўда, «Энерганагляд» спрабаваў абмежаваць выкарыстанне «Даламітам» электрычнасці. Але малаэфектыўна.

Калі запасы мазуту пачалі заканчвацца, генеральны дырэктар «Віцебскэнерга» Міхаіл Самадзееў асабіста наведаў ВА і пазычыў яму 20 цыстэрнаў паліва з запасаў Віцебскай ЦЭЦ. І гэта незважаючы на тое, што «Даламіт» павінен энергетыкам больш мільярда!

Чаму так адбываецца? Ды, пэўна, таму, што былая партыйна-наменклатурная брація, нягледзячы ні на што, імкнецца любым чынам утрымаць на плаву (хоць бы і кідаючы саломінку, хаця б і цягнучы за «вушы») сваіх былых кіраўнікоў і паплечнікаў. Неўзабаве ж выбары! Глядзіце, выбаршчыкі, іншыя заводы спыняюцца, а «Даламіт» У. Грыгор'ева працуе...

Толькі марныя высілкі, дарэмныя эканамічныя страты ад такой падтрымкі. Народ даўно зразумеў «хто ёсць ху».

**Ігнат ВАСІЛЕЎСКІ.**

*У мясцовых філіях*

## Шляхі і прыярытэты

Напрыканцы мінулага месяца ў Гомелі прайшла абласная канферэнцыя Аб'яднанай дэмакратычнай партыі, якая прыняла заяву аб прыярытэтах у палітыцы дэмакратычных сілаў, незалежных рабочага ды прафсаюзнага руху. На думку сяброў АДПБ, аднэй з найважнейшых задачаў беларускіх дэмакратаў павінна стаць на цяперашнім этапе прынццае парламентам новага выбарчага закона, які грунтуецца на мажырытарна-прапарцыянальнай (па акругах ды партыйных спісах) сістэме. Не меншую вагу гомельскія лібералы надаюць станаўленню шматпартыйнасці, дэманапалізацыі сродкаў масавай інфармацыі, замацаванню інстытута падтрымкі грамадска-палітычных аб'яднанняў.

Свае шляхі выхаду са складанай палітыка-эканамічнай сітуацыі, у якую трапіла краіна, канферэнцыя выклала ў рэзалюцыі, паводле якой трэба неадкладна стварыць пераходны ўрад, абраць на аснове дэмакратычнага выбарчага закона новы Вярхоўны Савет і Прэзідэнта, склікаць Канстытуцыйную Асамблею для прыняцця Асноўнага закона.

**Ю. Т.**

## Варты даверу

На справаздачна-выбарным сходзе Берасцейскай рэгіянальнай арганізацыі АДПБ яе старшынёй зноўку выбраны Генадзь Самойленка.

**Б.К.**

# БЕЛАРУСЬ ПАВІННА МЕЦЬ СВАЮ ГЕАПАЛІТЫКУ

Тысячу гадоў назад на перакрыжаванні воднага шляху з варагаў у грэкі нашы продкі стварылі першы правобраз будучай беларускай дзяржавы, які атрымаў назву «Полацкая зямля». У часы Усяслава Чарадзея Полацкае княства замацавала за сабою выхад у Балтыйскае мора, а з XIII ст. разам з Віцебскім і Смаленскім княствамі навязала цесныя гандлёвыя сувязі са знакамітым Ганзейскім саюзам. Адначасова Турава-Пінскае княства было пасрэднікам у гандлі палачан з краінамі Прычарнамор'я, Блізкага Усходу.

У другой палове XIII ст. нашы продкі ствараюць чарговае дзяржаўнае ўтварэнне Навагародскую (Навагрудскую) зямлю і запрашаюць на трон новай дзяржавы—ВКЛ—князя Міндоўга.

У канцы XIV—пачатку XV ст. Вялікае Княства Літоўскае, Жамойцкае і Рускае ўпершыню аб'ядноўвае ўсе этнаграфічныя беларускія землі і пашырае сваю прастору ад Балтыкі да Чорнага мора.

Аб'яднаўшыся з палякамі ў XVI ст. у федэратыўную дзяржаву Рэч Паспалітую беларусы цалкам уваходзяць у зону культурнага арэалу заходнееўрапейскай цывілізацыі і з'яўляюцца ўсходняй часткай заходнееўрапейскага свету да канца XVIII в.

Аднак пасля драпежніцкіх падзелаў Рэчы Паспалітай беларусы паступова губляюць сваю гістарычную назву «ліцьвіны», альбо «Літва» і надоўга знікаюць з гістарычнай карты Еўропы.

Толькі падзеі 25 сакавіка 1918 вясновай маланкай высвецілі перад чалавецтвам змучанае расейскім прыгнётам аблічча тагачаснага беларускага грамадства, якое разам з іншымі прыгнечанымі народамі Цэнтральнай, Усходняй і Паўднёвай Еўропы паставіла рубам пытанне аб сваёй дзяржаўнасці. Дзякуючы БНР, у рамках СССР беларусы атрымалі статус саюзнай рэспублікі і такім чынам пазбеглі канчатковай русіфікацыі і асіміляцыі. (Дастаткова толькі ўспомніць лёс беларусаў Смаленшчыны і Браншчыны, якія засталіся па-за межамі БССР!).

Зараз, калі на новых геаграфічных картах Еўропы, амаль у самым яе цэнтры з'явілася Рэспубліка Беларусь, наш народ зноў пераўтвараецца з аб'екта еўрапейскай геапалітыкі ў яе суб'екта. І ад таго, якую геапалітыку будзе праводзіць наша дзяржава, залежыць лёс і дабрабыт беларускага народа, яго суверэнітэт і незалежнасць.

Зараз Беларусь знаходзіцца на мяжы сутыкнення эканамічных, палітычных і ваенных інтарэсаў Расіі і заходнееўрапейскіх дзяржаў блока НАТА, а таксама Польшчы. Доўгі час мы былі мастом з Усходу на Захад і праз нашу тэрыторыю адна за другою каціліся войны і рэвалюцыі. Сёння, зыходзячы з пераваг палітыкі нейтральнай дзяржавы, мы павінны выступіць у ролі пасрэдніка ў адносінах Захад-Усход і такім чынам змяніць вектар накірунку геапалітычных сілаў, стаць зноў культурнай, эканамічнай і гандлёвай пляцоўкай для заходнееўрапейскіх тэндэнцый стварэння аб'яднанай Еўропы ад Біскайскага заліва да Урала і Сібіры. Таму Беларусі вельмі важна пазбягаць уваходжання ў розныя ваенна-палітычныя блокі і саюзы.

Лепей за ўсё ў сферы ажыццяўлення знешнепалітычнай дзейнасці нашай дзяржавы трымацца двухбаковых міждзяржаўных адносін. На восі Захад—Усход мы павінны мець асобыя стасункі з Францыяй, Германіяй, Польшчай і Расіяй. Сярод трох вышэйзгаданых заходніх краін для нас вельмі важна мець грунтоўныя эканамічныя адносіны з Германіяй, дзяржавай, якая вылучаецца значнымі перспектывамі эканамічнага росту і мае ўстойлівую грашовую адзінку.

У адносінах да Расіі трэба ўлічваць яе зацікаўленасць мець на сваіх заходніх межах дружалюбную славянскую дзяржаву, праз тэрыторыю якой праходзяць найбольш кароткія шляхі да рынкаў Цэнтральнай і Заходняй Еўропы. Галоўная мэта нашага супрацоўніцтва з гэтай вялікай дзяржавай—максімальнае аслабленне эканамічнай (г. зн. сыравіннай і энергетычнай) і палітычнай залежнасці ад яе.

Для выхаду ў Балтыйскае і Чорнае мора патрэбны асобныя адносіны з Латвіяй і Украінай. Менавіта праз тэрыторыю гэтых краін можна правесці Балтыйска-Чарнаморскі нафтавы калектар і пазбавіцца ад манаполіі Расіі на нашым энергетычным рынку. У адносінах з Летувай і Польшчай трэба абапірацца на беларускую дыяспару ў гэтых краінах і зрабіць усё магчымае, каб беларускія культурныя асяродкі на Беласточчыне і Віленшчыне былі даступныя для грамадзян нашай дзяржавы.

Для выхаду Беларусі на Поўдзень Еўропы трэба мець добрыя стасункі з Чэхіяй, Славакіяй, Аўстрыяй і Балгарыяй. Сярод гэтых краін найбольшую цікавасць уяўляе Славакія, якая мае вельмі падобны да беларускага гістарычны лёс і амаль аднолькавую з намі палітычную ментальнасць.

ЗША—гаспадарства, ад уплыву якога залежаць пазіцыі шмат якіх дзяржаў у свеце. Улічваючы зацікаўленасць гэтай краіны ў стварэнні нейтральнай і бяз'ядзернай зоны паміж Усходам і Захадам, Беларусь можа разлічваць на добрыя стасункі з гэтай звышдзяржавай і тым самым пашыраць свой уплыў у свеце.

Сярод неабходных для нас кантактаў з краінамі Азіі, Афрыкі і Лацінскай Амерыкі відавочна важнасць больш шырокага развіцця адносін з Ізраілем (дзе жыве шмат нашых былых суайчыннікаў), Кітаем, Паўднёвай Карэяй, Індыяй і Японіяй. Асобныя дачыненні трэба ўсталяваць з нафта- і газаздабываючымі краінамі блізкага Усходу, Румыніяй, Нарвегіяй, Алжырам, Туркменіяй і Азербайджанам.

Такім чынам правільная распрацоўка стратэгіі і тактыкі Беларусі ў геапалітычнай сферы міжнароднай дзейнасці можа прывесці наш народ да росквіту і эканамічнага дабрабыту.

**Алег ТРУСАЎ,**
**народны дэпутат Беларусі,**
**старшыня ЦР БСДГ.**

# САЦЫЯЛЬНАЯ ТЭХНАЛОГІЯ ПЕРАДВЫБАРНАЙ БАРАЦЬБЫ

## Дапаможнік У. Падгола па барацьбе з «саўковым» камунізмам

**Наша газета заснавана гарадскім клубам выбаршчыкаў «За дэмакратычныя выбары». І клуб, і газета маюць на мэце падрыхтаваць наша грамадства да свядомых, сапраўды дэмакратычных выбараў. Адна з задач—дапамагчы сумленным людзям, не звязаным ні з якімі кланамі, палітычнымі партыямі, уладавымі структурамі, зрабіць свой выбар, і, магчыма, прыняць удзел у выбарах у якасці кандыдатаў у дэпутаты.**

**Менавіта аб гэтым наша сённяшняя гутарка. Некалькі слоў аб суразмоўцы. Колькі гадоў назад кандыдата філасофскіх навук Уладзіміра Міхайлавіча Падгола амаль кожны тыдзень можна было бачыць на экране тэлевізара, чуць па радыё. Яго артыкулы з'яўляліся ў большасці рэспубліканскіх газет, а таксама ў «Комсомольской правде». Асабліва запомніліся першыя ў гісторыі СССР тэледэбаты кандыдатаў у дэпутаты Вярхоўнага Савета, арганізаваныя ім у 1989 годзе і паказаныя па першай праграме ЦТ. І раптам ён знік. На працягу апошніх гадоў не было чутно ніякіх яго выступленняў. Што здарылася!**

**З гэтым і іншымі пытаннямі да Уладзіміра Міхайлавіча звяртаецца наш карэспандэнт А. Букачоў.**

**Падгол:** Увесь гэты час я займаўся вывучэннем законаў дэміфалагізацыі свядомасці, распрацоўкай тэхналогіяў перадвыбарнай барацьбы, стварэння іміджу. І ўсё, што адкрываў, непасрэдна правяраў на практыцы ў розных гарадах Беларусі (сацыяльных палігонах).

**А. Букачоў: Што значыць «ствараць імідж»!**

**Падгол:** Стварэнне іміджа складаецца з 2-х частак, з 2-х накірункаў працы: 1. Інтэнсіўнае, мэтанакіраванне развіццё лепшых якасцяў чалавека, асабліва тых, што маюць грамадскае значэнне. Напрыклад асоба, якую хвалююць інтарэсы калектыва больш, чым свае ўласныя, пры адпаведнай падрыхтоўцы распаўсюджвае сваю дзейнасць за межы свайго калектыва на раён, горад, краіну. 2. Сацыяльнае «засвечванне»—асвятленне дзейнасці чалавека ў сродках масавай інфармацыі. Яно можа існаваць у двух асноўных відах: прамое, калі сам кандыдат ці група падтрымкі стварае імідж, і адваротнае, калі імідж чалавеку ствараюць яго праціўнікі.

**А. Букачоў: Што ж Вы адкрылі за час сваёй навукова-даследчыцкай працы!**

**Падгол:** Некалькі законаў. Распрацаваў колькі сацыяльных тэхналогіяў, у асноўным звязаных з перадвыбарнай барацьбой, стварыў шэраг мадэляў перадвыбарнай барацьбы, напрыклад: «Тэрмінатар», «Ахвяра», «Прэзідэнт», «Рэдактар», «Бізнесмен». Тэхналогію вядзення перадвыбарнай барацьбы па гэтых мадэлях мы падрабязна разгледзім крыху пазней.

**А. Букачоў: Наколькі вядома, Вы маеце пэўную палітычную пазіцыю. Чаму Вы рашылі раскрыць сваю прафесійную кухню, бо Вашымі метадамі могуць карыстацца палітычныя праціўнікі!**

**Падгол:** Больш таго, гэтыя сакрэты маюць грашовую каштоўнасць, бо іх можна прадаць як «ноу-хау». Але ў жыцці кожнага наступае такі момант, калі трэба выбіраць: ці ўласны дабрабыт, ці лёс свайго народа. Я свой выбар зрабіў. І перш за ўсё раскрываю свае сакрэты людзям сумленным, чыстым, шчырым, якія любяць сваю Радзіму, шматпакутную Беларусь, і якім не хапае толькі аднаго—ведаў сродкаў, метадаў, тэхналогіяў палітычнай барацьбы. Ідэалагічныя апаненты не змогуць эфектыўна выкарыстаць мае таямніцы. І вось чаму. Паводле галоўнага закона перадвыбарнай барацьбы, адна з функцый гэтага змагання—ачышчальная. Калі нейкі несумленны чалавек пачне выкарыстоўваць мае сакрэты, няхай ён камуніст або дэмакрат, ён непазбежна будзе адсеяны падчас перадвыбарнай барацьбы. Дарэчы, яшчэ старажытнагрэчаскі філосаф Геракліт сцвярджаў, што барацьба—бацька ўсяго і ўсяму цар. Адным яна наканавала быць багамі, а другім—людзьмі, адным—вольнымі, іншым—нявольнікамі. Справядлівасць нараджаецца ў змаганні па неабходнасці. Барацьба—усеагульная.

**А. Букачоў: Значыць, Вашы методыкі могуць быць небяспечнымі для несумленных людзей, якія спрабуюць прарвацца да ўлады або захаваць яе ў сваіх руках!**

**Падгол:** Так. Вось чаму забарона на рэферэндуму нанесла вялікую шкоду нашаму грамадству, пазбавіўшы яго магчымасці ачысціцца, за кошт новых выбараў знайсці новых таленавітых людзей.



Была альтэрнатыва: ці рэферэндум—перадвыбарная барацьба—выбары, падчас чаго «страляла б» палітычная «зброя» і гінулі б дутыя іміджы, а карупцыянеры рабіліся б палітычнымі трупамі, тым самым ачышчаючы грамадства і ўладу, ці тое, што маем сёння, калі карупцыя раз'ела грамадства—уладу і сапраўдную зброю, якая забівае людзей. Дарэчы, несумленныя людзі карыстаюцца несумленнымі метадамі перадвыбарнай барацьбы і, спадзяюся, у нашай гаворцы мы прааналізуем гэтыя методыкі.

**А. Букачоў: Дык з чаго ж пачынаць перадвыбарную барацьбу!**

**Падгол:** Пачынаць трэба першнаперш з асэнсавання самога фенамена перадвыбарнай барацьбы. З усведамлення сутнасці і функцый барацьбы. Бо для многіх барацьба азначае толькі адно: атрыманне дэпутацкага мандата, улады. Мае шматлікія назіранні за палітычнымі працэсамі, іх аналіз прывялі мяне да распрацоўкі і канстытуіравання **функцыянальнага закона перадвыбарнай барацьбы.** Функцыянальны закон перадвыбарнай барацьбы адлюстроўвае істотныя суадносіны паміж працэсам палітычнай барацьбы і станам грамадства, яго асоб. Асноўныя функцыі гэтага закона:

1 — **ачышчальная** (грамадства ачышчаецца як з маральнага, так і крымінальнага боку);

2 — **адукацыйная** (грамадства набывае палітычную адукацыю: веды, сродкі, метады);

3 — **канструктыўная** (ствараюцца элементы сацыяльна-палітычнай прасторы: узнікшы ў Віцебску гарадскі клуб выбаршчыкаў «За дэмакратычныя выбары» і газета аб'яднаў аднадумцаў, дазволілі ім выказваць свае погляды і дзейнічаць у адпаведнасці з гэтымі поглядамі. А пасля на гэтай базе ўзніклі мясцовыя аддзяленні партый. Гэта мясцовы прыклад. А ў маштабе дзяржавы прыкладам можа быць утвораны ў свой час блок дэмакратычных сіл «Рэферэндум».

(Працяг на 3-й стар.).

(Працяг. Пачатак на 2-й стар.).

або нядаўна створаны некалькімі дэмпартыямі блок «Вясна-94»);

4. **ініцыіруючая** (грамадства прачынаецца ад палітычнай спячкі, функцыя будзільніка).

**А. Букачоў: І якая карысць ад гэтай філасофіі, ад гэтага закона!**

**Падгол:** Зараз шмат хто спрачаецца наконт таго, ці ёсць сэнс удзельнічаць у передвыбарнай барацьбе, калі «саўковы» таталітарны рэжым мае ў сваім распараджэнні асноўныя, электронныя, сродкі масавай інфармацыі. Сцвярджаюць, калі перамагчы немагчыма, то няма і сэнсу змагацца. Калі ж вы глыбока асэнсуеце функцыянальны закон, то пабачыце, што ў любым выпадку барацьба мае грамадскі сэнс і каштоўнасць. Нават калі не атрымаеш мандат, усёроўна паспрыяеш развіццю свайго грамадства, сваёй Радзімы.

**А. Букачоў: Ну што ж, гэта даволі пераканаўча. І нават у мяне, спакойнага і памяркоўнага чалавека, у якога няма імкнення да ўлады, узнікла жаданне ўступіць у палітычную барацьбу, хоць я і не належу ні да якіх партый і рухаў.**

**Але што рабіць далей!**

**Падгол:** Асэнсаваць яшчэ адзін закон передвыбарнай барацьбы.

**ПЕРШЫ ЗАКОН ПЕРАМОГІ: атрымаць перамогу ў перадвыбарнай барацьбе зможа той, хто выйграе барацьбу яшчэ да яе афіцыйнага пачатку.**

**А. Букачоў: Як можна перамагчы ў тым, чаго няма—калі перадвыбарная кампанія яшчэ не пачалася і нават не аб'яўлена!**

**Падгол:** Вось на гэтую недасведчанасць, наіўнасць простых людзей разлічвае партыя ўлады. Барацьба ідзе пастаянна і вельмі інтэнсіўна. Ідзе з пераменным поспехам. Але, як правіла, ідзе даволі прымітыўна. Асабіста я ўжо два гады мэтанакіравана вяду да выбараў некалькіх груп кандыдатаў у розных гарадах Беларусі. Больш таго, пачынаючы з 1989-га я бесперапынна выводжу сваіх падапечных у дэпутаты Саветаў усіх узроўняў. У тых гарадах, дзе вядуць перадвыбарную барацьбу мае падапечныя, удалося разбурыць карупцыйныя сувязі і вярнуць народу «прыхватызаваную» маёмасць на мільярды рублёў. Там карупцыянеры ў паніцы.

**А. Букачоў: На якой падставе Вы сцвярджаеце, што выйграваць перадвыбарную барацьбу трэба да яе афіцыйнага пачатку!**

**Падгол:** На падставе вопыту першых выбараў у 1989 годзе, досведу наступных выбараў (да выбараў), на падставе аналізу тэндэнцыяў узмацнення інфармацыйнага таталітарызму ў Беларусі. Дапамагло тэарэтычнае абагульненне расійскага вопыту.

Першым кандыдатам, якія пагадзіўся выкарыстоўваць мае распрацоўкі, быў доктар філасофскіх навук, прафесар М. Слямнёў. Як зараз разумею, ён валодаў і валодае незвычайнымі ўласцівасцямі характару: вельмі высокі інтэлектуальны ўзровень, энцыклапедычныя веды, рашучасць, здольнасць да рызыкі і самаахвяравання, тонкі гумар. Я нездарма пералічваю гэтыя рысы, бо іх павінен мець кожны кандыдат. Але галоўнае, што вырашыла тады нашы лёсы—яго інтуіцыя. Ён, вядомы прафесар, у той момант паверыў мне і даверыўся. Першы раз мы ўступілі ў барацьбу за мандат народнага дэпутата СССР. Тады М. Слямнёва ведаў толькі 1% выбаршчыкаў. Але праз некалькі месяцаў перадвыбарнай барацьбы нечакана для ўсіх ён набраў каля 50% галасоў, сапернік—каля 37%. Абодва не прайшлі. Наступны этап—вылучэнне на акружным сходзе. Верныя партнаменклатуры прагаласавалі за тое, каб не дапусціць Слямнёва ў наступны тур выбараў. Пасля гэтага мы ўступілі ў перадвыбарную барацьбу за месца ў Вярхоўным Савеце БССР. Правялі ў інстытуце сход. Вылучылі. А калі скончыўся тэрмін вылучэння, з Менску нам паведамілі, што мы няправільна правялі сход, і таму яго вылучэнне анулюецца. Мы прапанавалі саперніку зняць кандыдатуру, паўтарыць вылучэнне і чэсна весці перадвыбарную барацьбу. Але атрымалі адмову. І тады наша каманда павяла ўнікальную барацьбу за невылучэнне адзінага кандыдата. Прычым мы пастаянна паказвалі праз сродкі масавай інфармацыі, як наменклатура расчышчае дарогу сваім кандыдатам і «адстрэльвае» такіх, як М. Слямнёў. Мы перамаглі. Стаўленіца наменклатуры не прайшла. І зноў мы вылучылі яго кандыдатуру, у чацвёрты раз. Слямнёва пачалі пазнаваць на вуліцах, у транспарце. Да чацвёртага вылучэння барацьба, па сутнасці, ужо была выйграна. Што і пацвердзілі вынікі выбараў. Такім чынам, наша каманда правяла наступныя перадвыбарныя кампаніі: 1—вылучэнне ў інстытуце; 2—акружны сход; 3—перадвыбарная барацьба (усё—у ВС СССР); 4—вылучэнне ў інстытуце; 5—акружны сход («адстрэл»); 6—вылучэнне ў інстытуце (у ВС БССР); 7—«адстрэл» у Менску; 8—перадвыбарная барацьба **супраць** безальтэрнатыўнай кандыдатуры (наша перамога); 9—вылучэнне па месцу жыхарства (няўдалае); 10—вылучэнне ў інстытуце; 11—перадвыбарная барацьба; 12—перамога.

Вось пасля ўсяго гэтага ў мяне і ўзнікла ідэя, аб тым, што выбары трэба выйграваць загадзя. А афіцыйны тэрмін перадвыбарнай барацьбы выкарыстоўваць на «даводку», на адшліфоўку свайго іміджу. Некалькі месяцаў, адведзеных на перадвыбарную кампанію ў афіцыйным законе (а тое, што такі ж тэрмін застанецца і ў новым законе, няма сумненняў), не дазволяць выбаршчыкам як след азнаёміцца з кандыдатамі ў дэпутаты. А яны, выбаршчыкі, хочуць галасаваць за таго, хто ім больш вядомы. Значыць, пачынаць перадвыбарную барацьбу трэба не сёння, а ўжо ўчора. Мае падапечныя знаходзяцца ў перадвыбарнай барацьбе да наступных выбараў ужо паўтара гады.

(Працяг будзе).

# Прэмія за лепшую прапанову па аднаўленню Саюза чакае свайго гаспадара

Не так яшчэ даўно ў былым СССР праводзіўся адзіны палітдзень. Партыйныя кіраўнікі ўсіх рангаў у гэты дзень «хадзілі ў народ»—на прадпрыемствы, у калгасы і розныя арганізацыі, запрашаючы з сабой прадстаўнікоў выканаўчых уладаў. Тыя былі неабходны на выпадак, калі нешта здарыцца незапланаванае: выстаўляліся як «хлопчыкі для біцця», каб не дай бог не ўзнікла сумненне ў людзей у хібах палітычнай сістэмы на чале з КПСС, якая ўсё ведала і бачыла.

Назва «КПСС» знікла, але сістэма і кіраўнікі засталіся. Многія з іх перасели ў крэслы выканаўчых структураў.

Сёння ўжо звальваць свае памылкі і няўменне кіраваць няма на каго. Валяць на дэмакратаў, якія пранікли ў шчыльныя рады былых «таварышаў» і ўсё разбурылі.

Уладу, вядома, хочацца захаваць. Вось і пайшлі, як раней, «былыя» ў «народ», каб той не забыўся, што ёсць у яго хоць нейкая, ды ўлада. На заводзе «Мегом» мне прыйшлося прысутнічаць на адной з такіх сустрэч. З рабочымі сустракалася інфармацыйная група Кастрычніцкага райвыканкама на чале з яго старшынёй.

Прадстаўнікі райвыканкама ў асноўным скардзіліся на цяжкасці, на недахоп у камітэта сродкаў, каб нешта змяніць да лепшага. Віна за гэтае ўскладвалася на нейкія «вярхі», якія нічога не вырашаюць і не даюць зверху ніякіх камандаў. Праўда, што за «вярхі», канкрэтна не называлася. Мы, маўляў, людзі маленькія. Пытайцеся ў тых, хто вышэй. Усё, што казалі выканкамаўцы, мне ўжо прыходзілася не аднойчы чуць на сесіях гарадскога Савета, у гарвыканкаме. Складваецца ўражанне, што адну і тую ж справу робяць, падмяняючы адна адну, раённая і гарадская ўлады.

І ў гар-, і ў райвыканкамах горада існуюць адны і тыя ж аддзелы і выконваюць адны і тыя ж функцыі.

Я запытаў: «Можа было б лепш скасаваць у горадзе адну структуру кіравання?» Старшыня райвыканкама адказаў, што гэта пытанне спрэчнае. Можна, вядома, скараціць ці райвыканкамы ці гарвыканкам (але хто ж сябе захоча скарачаць?), але гэта справа зноў жа вышэйшых уладаў. Ды і ўвогуле, усе гэтыя рэформы не могуць прывесці ні да чаго добрага. Вось, маўляў, пачалі перамены ў грамадстве, а ў выніку разваліўся Савецкі Саюз. Бог ведае, што можа яшчэ здарыцца, калі пачнем рэфармаваць і мясцовыя ўлады...

У мяне нават дух перахапіла: аказваецца, віной усяму развал Саюза!

Збіраўся многа каму вядомы ў Віцебску Александронак разам з «Працоўным Віцебскам» нават прэмію ў некалькі мільёнаў рублёў увесці за лепшую прапанову па аднаўленню былога Саюза. Пакуль што прэмія, як вядома, не ўручалася нікому. Дык, можа, узяўся б за гэтую справу Кастрычніцкі райвыканкам?

**У. ПЛЕШЧАНКА.**



**У прадчуванні бяды,**

**Алесь КРЫГА**

## Здрада

Навокал ганебная здрада.
Гандлююць табой, Беларусь.
Гандлюе Вярхоўная Рада,
Гандлюе манкуртаў хаўрус.
Хто хлеб прадае, хто Дзяржаву
Мяшкамі ў Расію вязуць.
На герб наш—«Пагоні» выяву,
На сцяг наш свяшчэнны
плююць.
І з бруднымі ботамі
лезуць
У мову-крыніцу маю...
І рэжуць, і рэжуць, і рэжуць!
На часткі старонку сваю...

**Уладзімір СЛАБІН**

# БЕЛАГВАРДЗЕЙСКІЯ БАНДЫ ЦІ НАРОДНАЕ ПАЎСТАННЕ?

(Працяг. Пачатак у №№ 36—37).

-7-

«Чырвоным» злодзеям трэба было сцерагчыся: усё ж у ЧК збольшага былі перакананыя камуністы, якія трохі дбалі пра аўтарытэт новае ўлады і не даравалі «праколаў». У Обальскае воласці міліцыянер Ануфры Мядзведзеў з хеўрай грабежнікаў удзельнічаў у крадзяжы авечак ды коней, а падчас вобшуку ў Вальдэмара Вальдмана выкраў гадзіннік. Злачынца быў расстраляны. Расстраляныя былі Пракоп Закаблукаў і Ягор Маркаў, якія ў Паташанскае воласці «праводзілі ў начны час рэквізіцыю прадуктаў і нікім на тое не былі ўпаўнаважаны» (рабавалі—**У. С.**), а да ўсяго яшчэ і напалі на памочніка начальніка міліцыі Іосіфа Рэйзнека, які перашкодзіў.

Папаліся ў той жа час на крадзяжы бульбы чырвонаармейцы Андрэй Аднаполенка, Міхай Логінаў, Мікалай Шчакарда і Хрысанф Чартольс. Маральнае аблічча вайскоўцаў новага рэжыму наогул было каламутным, нездарма ў губернскіх «Известиях...» з'явілася неяк інфармацыя «Лячэнне чырвонаармейцаў-венерыкаў». Традыцыйным пакараннем для іх была адпраўка на фронт. Туды і накіраваліся заступаныя на «самавольнае рэквізіцыі бульбы» Аляксей Бабаеў, Ануфры Сударонак ды Якаў Цыганкоў з Гарадоцкае каравульнае роты.

-8-

Гарадоцкія бальшавікі не былі падобныя на высокаідэйных марксістаў або прынцыпова «чырвоных» латышскіх стралкоў. Яны каралі падначаленых, але не мелі на гэта маральнага права, бо самі не былі беззаганнымі. Выклікаюць пытанні тадышнія кадравыя перастаноўкі ў ЧК. Вось Верамей Белавусаў прызначаны разведчыкам па Гарадку 12 жніўня, а 28 жніўня звольнены. Іван Нікіцін стаў начальнікам разведкі 6 жніўня, а 18 жніўня чамусьці робіцца загадчыкам кладавой. Што за гэтым стаіць?

Следчы Гарадоцкае ЧК Іосіф Рыбек пабіў усе рэкорды махлярства. Прыняты на пасаду 23 жніўня 1918 года, ён 28 жніўня быў звольнены, бо не адпавядаў пасадзе. У снежні высветлілася, што Рыбек, прымаючы грошы ад грамадзян як штраф, нелегальным чынам не здаваў іх па прыналежнасці, а збіраў у сябе і па звальненні знёс з сабой 4100 рублёў; на той час гэта былі немалыя грошы. Спецыяльна створаная камісія дала тэлеграму аб росшуку былога следчага-махляра.

Калі кралі чэкісты, дык што там казаць пра звычайных міліцыянераў? У памянёнае кнізе Дуброўскага начальнік Гарадоцкае міліцыі фігуруе як Альфрэд Лусь, але сапраўднае яго прозвішча Лус. Недакладнасць магла з'явіцца ад дарэвалюцыйнага напісання «Лусъ»—тут лёгка зблытаць цвёрды і мяккі знакі... Пачаўшы са старшыні салдацкага камітэта 298-га стралковага палка, гэты чалавек сцвярджаў сябе ў рэпрэсіўнае дзейнасці. Аднак увайшоў у смак і, як кажуць, «заляцеў». Ён прыхапіў сабе мэблю былога памешчыка Андрэя Вендта. Нехта паведаміў пра гэта кіраўнікам ЧК Мацюхову і Кундзевічу, тыя праз два дні паехалі на млын пры пасадзе Аляксеенкі, дзе жыў Вендт і дзе высветлілася, што тав. Лус сапраўды ўзяў мэблю дзеля свайго асабістага камфорту. А паводле цыркуляра іншагародняга аддзела, уся маёмасць заможных асоб, якія зніклі, баючыся арышту, канфіскавалася або перадавалася бяднейшаму насельніцтву. Пастановай калегіі аддзела ўпраўлення Лус 31 кастрычніка 1918 года быў адхілены ад свае пасады.

У сэнсе ўзроўню ідэйнасці і агульнае культуры не адставаў ад галоўнага міліцыянера Гарадоччыны яго веліжскі калега. Хоць зараз Веліж і знаходзіцца ў Расіі, але гэта, па-першае, беларуская этнічная тэрыторыя, (досыць звярнуцца, напрыклад, да знакамітае карты Яўхіма Карскага), па-другое, Веліж мае непасрэднае дачыненне да тэмы артыкула... Неяк увечары былы начальнік 1-га раёна Веліжскае павятовае міліцыі Сцідзянцоў напіўся самагонкі і надумаў наводзіць парадкі сярод чырвонаармейцаў, якія ахоўвалі склады з харчам.

(Працяг будзе).

